

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №12 (28)
ЖНІВЕНЬ 2015 ГОДА

КАЛОНКА РЭДАКТАРА

## ЧАКАЕМ РОСТУ КОШТАЎ…

**24 жніўня ў валютных абменніках даляр прадавалі за 18 000-18 600 беларускіх рублёў, еўра – за 20 500 – 21 500. Якім будзе валютны курс пад час прэзідэнцкіх выбараў?**

Гэткая сітуацыя напружвае не толькі адмыслоўцаў, але і простых беларусаў.

Учора падзяліўся са сваёй суседкай уласнай асцярогай: маўляў, занадта ўжо хутка пачала валюта расці. Тая замест нейкай узважанай рэакцыі нема зараўла, што ёй на...ць на тую валюту, і што яна не купляе даляры з тых самых часоў, як перастала працаваць у банку ды выйшла на пенсію.

Для чаго гэта я, запытаецеся вы, перадаю істэрычную рэакцыю сваёй суседкі? Ну, тут некалькі прычынаў. Па-першае, яна цікавая з пункту гледжання трываласьці тутэйшага сярэднестатыстычнага чалавека ва ўмовах пагаршэньня эканамічнай сітуацыі. Па-другое, з пункту гледжання здольнасьці гэткага чалавека цьвяроза ўсьведамляць тыя пагрозы, якія на яго насоўваюцца. І па-трэцяе, як варыянт магчымага выкарыстаньня ўладай гэткіх некантраляваных эмацыйных настрояў супраць тых сіл, якіх гэта самая ўлада і зробіць ахвярнымі казламі сваёй уласнай эканамічнай нядзеяздольнасьці. Ну, і па-чацьвёртае, няхай гэта будзе адказам тым апазіцыйным аптымістам, якія эканамічнае згаршэньне наўпрост звязваюць з абуджэньнем сацыяльнай актыўнасьці і магчымымі палітычнымі пераменамі ў краіне.

Як вы ўжо зразумелі давесьці гэткім людзям нешта з дапамогай логікі пасля дзесяцігодзьдзяў ідэалагічнай апрацоўкі папросту немагчыма, але ж ведаць тое, што менавіта гэткія людзі зьяўляюцца апірышчам існай тут улады, трэба.

Далейшы свой выклад адрасую тым чытачам, якія цьвярозага розуму не згубілі і здольныя успрымаць атрыманую інфармацыю адэкватна. Трэба ўсьведамляць, што гэткі рэзкі рост валюты мусіць у хуткім часе выклікаць і заўважны рост цэнаў. Як мяркуюць спецыялісты, адбудзецца ён у верасні месяцы. Спадзяваньне на расейскі крэдыт, які можа неяк улагодзіць сітуацыю, ва ўмовах эканамічнай нестабільнасьці ў самой Расеі падаецца мала верагодным.

Першымі на рост коштаў адрэагуюць вытворцы бытавой тэхнікі, мебельныя і турыстычныя фірмы, рыхтуюцца да падвышэньня цэнаў і вытворцы аўтамабіляў. Мяркуемае падвышэнне ў гэтым сегменце рынку плануецца ў межах 15-30 адсоткаў. Самае ж вялікае падвышэньне цэнаў чакаецца на замежныя лекі – 70%. Зразумела, адрэагуе на дадзеную эканамічную сітуацыю і харчовы рынак. А вось мясцовыя ахвяры тытунёвай залежнасьці могуць пакуль спаць спакойна – падвышэнне коштаў на цыгарэты пакуль не плануецца.

Як зразумела, прэзідэнцкія выбары, запланаваныя на кастрычнік месяц, адбудуцца сёлета ў асабліва нязручнай для асноўнага кандыдата абстаноўцы, таму вельмі цікава будзе паназіраць за вынікам гэтай кампаніі, які дазволіць адказаць на шэтаг пытаньняў, пастаўленых у самым пачатку гэтага артыкула. І самае галоўнае засведчыць ступень трываласці тутэйшага электарату перад пагрозай далейшага эканамічнага пагаршэньня і палітычнага ціску на найбольш актыўную частку насельніцтва.

**Рэдактар**

ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ-2015

## ТАЦЬЦЯНА КАРАТКЕВІЧ НАВЕДАЛА ВІЦЕБСК

**20 жніўня кандыдат у прэзыдэнты ад кааліцыі «Народны рэфэрэндум» Тацьцяна Караткевіч наведала Віцебск.**

За некалькі гадзін, праведзеных у горадзе, патэнцыйная кандыдатка пабывала на некалькіх пікетах, дзе зьбіраліся подпісы ў яе падтрымку, паразмаўляла зь віцебскімі мінакамі, сустрэлася з дробнымі прадпрымальнікамі Смаленскага рынку і з задавальненьнем даволі шмат фатаграфавалася са сваімі прыхільнікамі.

Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя сустрэчы праходзілі сярод працоўнага дня і таму многія з тых, хто меў жаданьне сустрэцца са спадарыняй Тацьцянай, на жаль, ня меў рэальнай магчымасьці. Каб, хоць у якой ступені кампэнсаваць гэтую нязручнасьць наш карэспандэнт задаў Т. Караткевіч некалькі пытаньняў:

***Спадарыня Тацьцяна, Вам асабіста не падаецца, што сёлетняя прэзыдэнцкая кампанія праходзіць амаль незаўважна, я б сказаў сьціпла? У той самай далёка не дэмакратычнай Вэнэсуэле пад час выбараў дазволена не толькі махаць сьцягамі і зьбіраць натоўпы ў цэнтры гораду, там ніхто не забараняе разьяжджаць па вуліцах гораду і праз мэгафон заклікаць электарат падтрымаць свайго кандыдата. Тут жа гэткае ўражаньне, нібыта жыцьцё спынілася.***

Па-першае, я праводжу кампанію ў адпаведнасьці з тым, як дамаўлялася са сваёй камандай. І па-другое, людзі ў нашых сёньняшніх умовах патрабуюць асаблівай увагі, бо сёньня яны баяцца нават да пікетаў падыходзіць, асабліва ў малых гарадах. Наша ж задача - вярнуць давер да дэмакратычных прадстаўнікоў, да альтэрнатыўнага пункту гледжаньня. Гэта вельмі важна. Трэба пераадолець існы на сёньня нулявы ўзровень даверу.

Самая галоўная задача падпісной кампаніі – сабраць сто тысяч подпісаў і мы гэта робім і ў пікетах і, ходзячы па кватэрах. Статыстыка розная: у Менску лепш подпісы зьбіраюцца ў пікетах, у малых гарадах наадварот праз пакватэрныя абыходы. А што тычыцца сьціплата ці ня сьціпла: мы, напрыклад, хацелі зьвязаць пікеты і велапрабегамі ў Менску, дык нам патэлефанавалі і сказалі: « Нельга!». Я з гэтым ня згодная, бо лічу, што няма розьніцы паміж этапам збору подпісаў і агітацыяй. У нас і так вельмі шмат разнастайных абмежаваньняў.

***Вам не падаецца, што тых, хто пагадзіўся прыняць удзел у сёньняшняй палітычнай гульні, умоўна кажучы, пасадзілі ў пясочніцу, далі цацкі і дазволілі пагуляць у адведзены для гэтага час?***

Мо, так і падаецца, але мы ідзем, каб аб'яднаць галасы грамадзян. Яны падыходзяць да пікетаў, дыскутуюць, адмыслова шукаюць гэтыя пікеты, выказваюць свае меркаваньні. У тых пікетах, дзе ўдзельнічаю я зьбіраецца і па трыццаць чалавек. Хаця звонку гэта можна выглядаць, як заўгодна, але гэта рэальная праца, рэальная палітыка.

***Значыць, калі Ваша каманда зьбярэ подпісы, Вы пойдзеце да канца і не прыслухаецеся да Паўла Севярынца, які заклікаў усіх дэмакратычных кандыдатаў зьняцца з выбарчай гонкі.***

Я буду прыслухоўвацца да голасу тых людзей, якія паставілі за мяне подпісы, бо яны кажуць, што вось мы падпісваемся за Вас і мы мусім ведаць, што Вы дакладна не зьнімецеся? Кожны дзень, дзе б я ні была, паўсюдна, з самага пачатку да мяне падыходзяць людзі і задаюць гэткае пытаньне. Трэба разумець, што сёньня людзі адвучыліся ўдзельнічаць у палітыцы і грамадзкім жыцьці. Яны нібыта навучэнцы, таму ім вельмі важна паказаць пасьлядоўнасьць іх дзеяньняў. Сёньня мы кажам, што ў нас распачаўся марафон за мірныя перамены. І самае галоўнае – завяваць давер грамадзян.

***Вас часта абвінавачваюць у тым, што сваім вылучэньнем Вы спрыяеце паляпшэньню іміджу А. Лукашэнкі і ствараеце ілюзію альтэрнатывы. Ці згодныя Вы з гэткім абвінавачваньнем?***

Я з гэтым нязгодная. Сёньня ўлада мае магчымасьці правесьці выбары і набыць легітымнасьць і без майго ўдзелу. Я наадварот ствараю канкурэнцыю і даю людзям сапраўдную альтэрнатыву.



***Як Вы мяркуеце, што магло б абудзіць тутэйшы народ да актыўнага палітычнага жыцьця, пераадолець існую апатыю і абыякавасьць. Падаецца, людзям наогул сёньня не да выбараў.***

Людзям не да выбараў, але ім не ўсё адно, як яны будуць жыць далей. Застаючыся сам на сам кожны ставіць перад сабой пытаньне: « Якая ў мяне будучыня?». Відавочна, больш актыўныя, больш маладыя па меры пагаршэньня сытуацыі будуць шукаць выйсьце ў іншых месцах, у іншых краінах. Наша кааліцыя лічыць, што абуджэньню беларусаў можа спрыяць толькі адчуваньне таго, што іх шмат, што яны не адны такія. Сёньня яны пэрсанальна падыходзяць да пікетаў розных кандыдатаў, пакуль, што пасобку. Мы ж хочам, каб беларусы адчулі, што іх шмат. І тады статыстыка стане рэальнасьцю. Тады гэта будзе спрыяць абуджэньню беларусаў.

**Якаў Дрозд**

АХОВА ПРЫРОДЫ

## ОЧЕРЕДНОЙ ФАКТ ГИБЕЛИ РЫБЫ

**Витебская область продолжает поставлять факты нарушений природоохранного законодательства. В Витебском районе установлен факт гибели рыбы**

С 27 июля по 2 августа работники Государственной инспекции охраны животного и растительного мира при Президенте Республики Беларусь провели 105 полевых контрольных мероприятий и выявили 146 нарушений природоохранного законодательства, в том числе:

- 74 нарушения Правил ведения рыболовного хозяйства и рыболовства, изъяты 90 сетей общей длиной около 3,8 км и 146 кг незаконно выловленной рыбы;
- 8 нарушений Правил ведения охотничьего хозяйства и охоты, изъяты 18 кг мяса дичи;
- 43 нарушения правил лесопользования;
- 21 прочее нарушение природоохранного законодательства.

27 июля работники Витебской межрайинспекции установили факт гибели рыбы на реке Лужеснянке. Погибшая рыба обнаружена на участке протяженностью около 1 км – от места впадения в реку безымянного ручья у деревни Дутчино до места слияния Лужеснянки с Западной Двиной. Собрано около 800 особей различных видов рыб весом 26 кг. Лаборатория аналитического контроля отобрала пробы воды в нескольких точках реки и ручья. Причины гибели рыбы устанавливаются.

**Ян Сведка**

НАВАСЕЛЛЕ

# РОМА СВЕЧНІКАЎ ЗАВІТАЎ У ГОСЦІ

**14 жніўня ўвечары на вуліцы Талстога, 7 у Віцебску ўсе цікаўныя і зацікаўленыя мелі магчымасць сустрэцца з вядомым на Беларусі вандроўнікам.**

Аўтар кнігі ды праекту 34 mag. net «Рома едзе» Раман Свечнікаў і ягоны напарнік па цяперашнім падарожжы экс-рэдактар медыялабараторыі 34 mag Барыс Нікалайчык падзяліліся ўражаннямі з нагоды сёлетняга свайго падарожжа.

Праехаўшы сто тысячаў кіламетраў па 25 краінах свету і напісаўшы з тае нагоды цэлую кнігу, у гэты раз у якасьці аб'екту для досьледу і адкрыцьця ў межах праекту « Вакол Беларусі на роварах з рухавіком» Раманам Свечнікавым была абрана ўласная краіна. З кітайскім рухавіком, усталяваным на веласіпед « Аист», першага ліпеня хлопцы выехалі з Воршы, каб абъехаўшы межы Бацькаўшчыны, вярнуцца туды ізноў. На гэты раз у якасьці справаздачы вандроўнікі здымалі невялікія відэаролікі, якія ўрэшце мусілі стаць матэрыялам для мяркуемага на будучыню дакументальнага фільму альбо нават серыялу.

Трэба адзначыць, што ідэя падарожжа на роварах з рухавіком была запазычана Ромай у швейцарскіх падарожнікаў ажно ў далёкім Перу, дзе тыя меркавалі праехаць на гэткім відзе транспарту тры тысячы кіламетраў. Не ведаем ці ўдалося дасягнуць швайцарцам пастаўленай мэты, а вось хлопцам за доўгае іхняе падарожжа мяняць рухавік прыходзілася не адзін раз. Наогул разнастайныя паломкі адбываліся даволі часта, бо веласіпед гэтай маркі не прыстасаваны для гэткіх напружаных маршаў, як дарэчы і кітайскія рухавікі.

Вандроўнікі разьлічвалі, што за месяц яны здолеюць аб'ехаць усю Беларусь, але, як сталася, жыцьцё ўнесла свае карэктывы, і тэрмін падарожжа павялічыўся амаль у паўтары разы. Запланаваныя выдаткі ў сто тысячаў рублёў на чалавека таксама аказаліся нерэальнымі. Але ў гэтым, мабыць, і ёсьць самы цымус падобных вандровак.

Дарэчы, трэба адзначыць, што, сыходзячы з канчатковай мэты свайго падарожжа, хлопцы праехалі на сваіх роварах амаль праз увесь Віцебскі раён. Вось толькі жыхарства раёну, на жаль, амаль гэтага і не заўважыла.

Затое наведнікі віцебскай імпрэзы ў пятніцу трынаццатага цалкам задаволілі сваю цікаўнасць і атрымалі масу станоўчых эмоцый ад прыгодніцкіх расповедаў і паказанага пад адкрытым небам відэафільму. Пытаньні, зададзеныя Барысу і ў першую чаргу Роме, тычыліся не толькі сёлетняга падарожжа, але і мінулага – кругасветнага.

У суботу, крыху пабадзяўшыся па горадзе, « валацугі», як яны сябе называюць, рушылі ў кірунку Воршы. Падарожжа падышло да свайго лагічнага завяршэньня, але наперадзе новыя планы і новыя вандроўкі. Мабыць, у таварным цягніку да Уладзівастоку, а, мабыць, і на яхце па моры-акіяне. Той, хто ідзе наперад, абавязкова дасягае свае мэты.

**Ян Сведка**

КРЫМІНАЛ

# ЖАЖДА ЛЁГКОЙ НАЖИВЫ

**Жажда легких денег привела жителей деревень Букатино и Лужесно Витебского района к уголовному делу.**

3-летний неработающий мужчина похитил банковские пластиковые карточки с целью хищения денежных средств, принадлежащих Анастасии Сергеевой (имя и фамилия изменены — прим. автора). Преступные деяния он совершал по предварительному сговору со своим другом.

— Обвиняемые действовали умышленно, из корыстных побуждений с целью хищения денежных средств с карт-счетов путем введения в компьютерную систему ложной информации. Выдавая себя за законных владельцев банковских карточек, используя сведения об идентификационных номерах, через банкомат мужчины получили несанкционированный доступ к компьютерной информации и в несколько этапов совершили хищение денег, — констатировал старший следователь второго следственного отделения Витебского РОСК майор юстиции Игорь Заворин.

Всего же придвинцы «прикарманили» почти один миллион рублей. Криминальные заработки злоумышленников квалифицированы по ч. 2 ст. 212 УК по признакам: хищение имущества путем введения в компьютерную систему ложной информации, сопряженное с несанкционированным доступом к компьютерной информации, совершенное группой лиц по предварительному сговору.

Материалы уголовного дела переданы в прокуратуру для направления в суд.

**"Віцебскія весці" vitvesti.byl**

ЭКАЛОГІЯ

# УНІКАЛЬНАЯ АПЕРАЦЫЯ

**На Дзвіне навукоўцы "перасяляюць" вадзяны мох.**

На рацэ збіраюць камяні, але незвычайныя. Паўстагоддзя таму на даламітавых валунах навукоўцы выявілі цінкідотус дунайскі - вадзяны мох. Гэта рэдкая расліна сустракаецца толькі ў Альпах.

Навукоўцы праводзяць выратавальную аперацыю, каб гэты ўнікальны раслінны від не знік назаўжды. Унікальны мох - амаль усё жыццё пад вадой, але глыбіня большая за 2 метры - пагроза для яго існавання. У гэтым жа месцы вада хутка падымецца на ўсе 10 метраў: ніжэй па плыні будуецца Віцебская ГЭС.

Каліна Даўгаве ў Латвіі таксама ўзводзілі гідраэлектрастанцыю, гэты від раслін затапілі. Беларускія батанікі вырашылі яго выратаваць. Іншым прадстаўнікам Чырвонай кнігі ўздым ўзроўню вады ў Заходняй Дзвіне не пагражае - такі вынік экалагічнай экспертызы.

Знікаючую расліну перасяляць адразу ў некалькі месцаў: на раку Аўсянку і ў бяспечнае для яго месца Дзвіны.( Пераклад з расейскай выкананы рэдактарам)

**http://news.tut.by/society/460305.html**

ІНВЕСТЫЦЫІ

# ПОСТРОЯТ МУСОРО-ПЕРЕРАБАТЫВАЮЩИЙ ЗАВОД

**Мусороперерабатывающий завод для Витебска построят между Коптями и Косачами.**

Управлением капитального строительства Витебска объявлен тендер на выполнение проектно-изыскательских работ по строительству мусороперерабатывающего сортировочного завода.

После проведения всех согласований и экспертиз, в течение четырех месяцев (март—июнь 2016 года) должен быть подготовлен архитектурный проект. Стоимость проектно-изыскательских работ, без учета стоимости экспертиз, оценивается в 7 300 000 000 рублей, из них 1 400 000 000 рублей будет потрачено на прединвестиционную документацию. Финансироваться работы должны из средств государственного учреждения «Оператор вторичных материальных ресурсов».

Под будущий завод отводят чуть более 10 гектар земель, принадлежащих ГЛХУ «Витебский лесхоз» и ОАО «Липовцы», которые находятся между деревнями Копти и Косачи. При этом 1.18 гектара заняты пахотными землями, а 8,9 гектара входят в лесной фонд и относятся к лесам I группы, в том числе 8,8 гектара покрыты лесом. УКС Витебска должен вырубить этот лес и реализовать древесину. При этом убытки, связанные с потерями сельскохозяйственного и лесного производства, а также со сносом объектов недвижимости оцениваются в 1 241 310 000 рублей.

Согласно техническим условиям завод должен перерабатывать 100 000 тонн мусора в год. Технология и оборудование завода должны обеспечивать сортировку твердых коммунальных отходов с извлечением вторичных материалов (макулатуры, стекла, ПЭТ-бутылок, пластмассы, черных и цветных металлов; переработку ПЭТ-бутылок и пластмасс; изготовление компоста; изготовление RDF-топлива.

Планируется, что завод будет работать 305 дней в году в две смены, а линия сортировки обеспечит 100 новых рабочих мест. При этом на предприятии должна быть предусмотрена автоматическая система управления технологическим процессом.

**Сяржук Серебро «ННВ»**

НАША ГІСТОРЫЯ

# ПАДБЯРЭЗІНСКІЯ КАНТРАСТЫ

**Вы не былі ў Падбярэззі? Наведайце гэтую вёсачку. Вёска Падбярэзьзе Бабініцкага сельскага савету ці ні адзінае месца ў Віцебскім раёне, дзе гэтулькі гістарычных пабудоваў захавалася ў адносна добрым матэрыяльным стане. Да таго ж трэба адзначаць, што пераважная колькасьць зь іх да сёньняшняга часу выкарыстоўваецца па сваім непасрэдным прызначэньні.**

Гісторыя гэтай вёскі даволі багатая і разнастайная. Некалі гэтыя землі належалі выбітным гістарычным асобам: князям Агінскім і Храпавіцкім. Непасрэдна ў Падбярэзьзі нарадзіўся 1 кастрычніка 1612 года Ян Храпавіцкі – дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, віцебскі ваявода з 1669 году, які акрамя ўсяго астатняга пакінуў сваім нашчадкам насычаны разнастайнымі цікавымі назіраньнямі і развагамі літаратурны дзёньнік.

У 1877 годзе з ініцыятывы памешчыкаў-арандатараў у вёсцы была арганізаваная дзейнасьць «Таварыства віцебскіх сельскіх гаспа-дароў». Вытворцы сельска-гаспадарчай прадукцыі выкарыстоўвалі ў сваёй дзейнасьці дасягненьні сэлекцыянэраў, перадавыя тэхналёгіі, прылады працы і машыны. Да гэтага часу збудаваныя тады гаспадарчыя пабудовы выкарыстоўваюцца сёньняшнімі сялянамі дзеля захоўваньня і перапрацоўкі прадукцыі, вырашчанай на палетках ужо па сучасных тэхналёгіях.

Аднак размова пойдзе не пра гэта. Размова пойдзе пра кантрасты. Ня трэба быць асабліва назіральным ці абазнаным у гістарычных аспэктах чалавекам, каб заўважыць адну важную акалічнасьць: збудаванае нашымі папярэднікамі стагодзьдзі таму жыве, а зробленае за часамі Савецкага Саюзу разбураецца і прыходзе ў заняпад. Але ж жыхары вёскі наўрад ці зададуць сабе пытаньне: чаму збудаванае намі і нашымі бацькамі не застанецца нашым нашчадкам? На фоне збудаваных памешчыкамі з чырвонай цэглы гаспадарчых пабудоў будынкі савецкага часу выглядаюць, як зьдзек над здаровым сэнсам і накавольным асяродзьдзем, у якое яны ня ўпісваюцца і зь якім у іх яўны дысананс.

Многім цяжка зразумець, чаму ў гаспадароў 19 стагодзьдзя хапала сіл і сродкаў, каб будаваць з густам і на вякі, і чаму ў сёньняшніх гаспадарнікаў пры сучасных тэхналёгіях і несувымерных тэхнічных магчымасьцях не хапае ні сіл, ні сродкаў, ні жаданьня, каб хаця адрамантаваць і надаць прыстойны выгляд таму, што захавалася ім ад папярэднікаў. Забітыя дошкамі ці нават запіханыя сенам вокны выглядаюць у 21 стагодзьдзі, як нейкі анахранізм ці лепей сказаць выразны паказчык дэградацыі.

Старасьвецкія прысады, старажытныя будынкі і элемэнты былога парку з дубамі і ліпамі ствараюць непаўторную аўру, нараджаюць настальгію па натуральных чалавечых зносінах і стасунках, настальгію па часе, калі гаспадаром, а ня парабкам быў нават той, хто наймаўся на працу ў памешчыцкую гаспадарку.

Вярнуць жа сёньняшнім сялянам пачуцьцё гаспадара можа толькі свабода, без якой не зьдзяйсьняюцца ніякія пляны і задумы, але ж свабода не прыходзіць сама па сабе яе трэба прагнуць і дабівацца.

**С. Горкі**





ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ–2015

# МІР ЗАМЕСТ ЗАРОБКАЎ

**15 жніўня падчас наведваньня Менскага заводу колавых цягачоў (МЗКЦ) Аляксандар Лукашэнка ясна і выразна сфармуляваў сваё перадвыбарнае пасланьне, сваю праграму. Хоць гэты мэсыдж гучаў і раней, але цяпер ён прадстаўлены ў канцэнтраваным выглядзе і адчаканенай форме. І ў параўнаньні з выбарчымі праграмамі ў папярэдніх прэзыдэнцкіх кампаніях, цяперашняя выглядае вельмі кантрастна.**

Нагадаю, што падчас усіх мінулых выбараў зьмястоўная частка лукашэнкаўскага пасланьня зводзілася да абяцаньня падвысіць сярэдні заробак у краіне да пэўнага ўзроўню. Аднак цяпер усё рэзка памянялася. «Я пачынаю пытацца: а што хоча народ пачуць ад будучых кандыдатаў у прэзыдэнты? А народ хоча заробку пабольш і пажадана паменш працы... Але ня гэта сёньня галоўнае», — глыбакадумна заявіў кіраўнік дзяржавы, выступаючы на МЗКЦ.

Такім чынам, заробак цяпер — не галоўнае. А што ж ёсьць галоўнае, калі не ўзровень жыцьця насельніцтва? Лукашэнка тлумачыць: «Ідзе перадзел сьвету. І заробак — гэта вельмі важна. Але перада мной як прэзыдэнтам стаіць задача абараніць краіну. І як нам, сярэдняй дзяржаве, па цяперашніх мерках, выстаяць, вытрываць, і каб мы не патрапілі, як дзьве шасьцярэнькі, каб нас не зьмялі і не ўтапілі. Вось што сёньня самае галоўнае ».

То бок, штучна ствараецца сытуацыя крэпасьці ў аблозе. Беларусі, нібыта, пагражае страшная зьнешняя небясьпека, вакол ворагі. Прычым, «за гэтай бойкай па адзін, і па другі бок стаяць моцныя гэтага сьвету», — запэўнівае А. Лукашэнка. То бок, пагроза зыходзіць і з Захаду, і з Усходу, ад, нібыта, саюзьнікаў. Галоўнае, нагнятаць напружанасьць, наганяць страху. Дарэчы, гэтую задачу добра выконваюць расійскія тэлеканалы. І калі ўсе напалоханыя, заікацца аб заробках неяк няёмка. «Як бы нам ні было цяжка, мы павінны захаваць мір у нашай краіне, усё роўна, з якім прэзідэнтам. Трэба, каб былі мір і стабільнасьць», — як заклён паўтарае ён. Такім чынам, мір, адсутнасьць вайны замест росту заробкаў, падвышэньня дабрабыту — вось сутнасьць перадвыбарчай праграмы Лукашэнкі. І народу толькі застаецца дзякаваць і кланяцца.

Якое апусканьне амбіцый! Яшчэ ж зусім нядаўна Лукашэнка будаваў у Беларусі зіхатлівы «Горад на Узгорку», Зямлю запаветную. Беларускі лідэр бачыў краіну як «духоўная лідэра ўсходнеславянскай цывілізацыі», як эталён, узор, прыклад для астатніх народаў, якім ня так пашанцавала з прэзыдэнтам. «На Беларусь глядзяць як на выратавальніка славянскай цывілізацыі, і мы павінны гэтую цывілізацыю выратаваць!», — пафасна вяшчаў Аляксандар Лукашэнка. А зараз усё гэта ператварылася ўсяго толькі ў тэрыторыю выжываньня. Які сумны фінал грандыёзнага праекту.

Здавалася б, у канцэпт міру, адсутнасьці вайны, стабільнасьці добра ўпісваецца сцэнар «ціхіх выбараў». То бок, прэзыдэнцкая кампанія праводзіцца як руцінная, тэхнічная, бюракратычная працэдура, без скандалаў і канфліктаў. І такому сцэнару ніхто не пагражае, нават апазыцыя не заклікае да Плошчы, арыентуецца, як кажа Тацяна Караткевіч, на «мірныя перамены».

Але, падаецца, такія зусім ужо ціхія выбары не задавальняюць Лукашэнку. Бо калі ўсё ціха і мірна, то навошта патрэбны «абаронца стабільнасьці»? Ад каго абараняць? Таму трэба штучна стварыць ворагаў, арганізаваць напружанасьць ці імітаваць яе, каб напужаць народ.

Што для гэтага робіцца? **Па-першае,** рыхтуецца новая вэрсія прэзыдэнцкай дырэктывы «Аб мерах па ўмацаваньні грамадзкай бясьпекі і дысцыпліны». **Па-другое,** 18 жніўня падпісаны прэзыдэнцкі ўказ № 356, якім зацьвярджаецца Палажэньне аб камісіі па супрацьдзеяньні экстрэмізму і барацьбе з тэрарызмам. Такія камісіі будуць ствараццa абласнымі выканкамамі і Мінгарвыканкамам.

**Па-трэцяе,** знайшлі і «тэрарыстаў». Імі выявіліся падазраваныя ў напісаньні вулічных графіці. Іх затрымлівалі як тэрарыстаў, узброены спэцназ прымяняў такія сілавыя сродкі, што адзін хлопец атрымаў двайны пераломам сківіцы.

**Па-чацьвёртае,** заява міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча, што міліцыя гатовая да выбараў. «Магу гарантаваць — мы гатовыя да адэкватнага адказу на любы выклік, любую пагрозу. Мы гатовыя да таго, каб мінімізаваць любыя шкодныя наступствы. Скажу нават больш: мы гатовыя на сённяшні дзень спрацаваць трохі раней, калі будзе ў гэтым неабходнасьць, каб не давесьці сытуацыю да крытычнай», — падкрэсьліў міністар. Не зьдзіўлюся, калі ў дні галасаваньня па Менску будуць дэманстратыўна езьдзіць аўтазакі.

Але падаецца, што ўсё гэта робіцца ня толькі для таго, каб штучна стварыць напружанасьць і напалохаць абывацеля. Справа ў тым, што яны і самі баяцца. Усе гэтыя рухі робяцца яшчэ й таму, каб пераадолець уласныя страхі. Гучныя арышты апошніх дзён таксама ня сьведчаць аб спакоі і стабільнасьці ў краіне. Спакой нам толькі сьніцца.

**Валер Карбалевіч**
***"Радыё Свабода"***

АДЗІНЫ ПАЛІТЫК

# АД ПРЫПАВЕСЦІ ДА ЗАГАДУ

**Без уяўлення вобразу жаданай будучыні немагчыма выбудаваць стратэгію развіцця. Але адсутнасць вобразу будучыні — гэта яшчэ паўбяды. У беларускай эліты за два дзесяцігоддзі так і не склаўся вобраз сучаснасці.**

Хто сказаў, што на вяршыні ўладнай «вертыкалі» не здольныя ўсвядоміць маштаб праблем, якія насоўваюцца на нас? Здавалася б, яшчэ ў пачатку ліпеня адзіны палітык (АП) адмаўляўся прызнаваць наяўнасць у краіне эканамічнага крызісу. Ён супакойваў панікёраў: «Цяжкасці гэтыя часовыя і абсалютна пераадольныя. У нашай нядаўняй гісторыі мы годна вытрымлівалі і не такія выпрабаванні!»

Часовыя цяжкасці — гэта як часовая цяжарнасць. Але іншай цяжарнасць у прадстаўнікоў Homo sapiens і не бывае. Ёсць і яшчэ адна аналогія: цяжарнасць выклікаецца ваганнямі, адказнасць за якія нясе знешняя крыніца. Без адкрытасці навакольнаму свету зацяжарыць нельга. Вось як гэту аналогію АП патлумачыў у ліпені: «Сусветны і рэгіянальныя эканамічныя крызісы ў апошні час моцна ўдарылі не толькі па нас. Але наша адкрытая эканоміка, адчувальная да ваганняў (выдзелена. — С.Н.) знешніх рынкаў, пакутуе і ад санкцыйных войнаў, якія праводзяцца Захадам і Расіяй».

Прайшло два месяцы. 6 жніўня, прымаючы прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова, АП загаварыў на мове вайны: «Я разумею — складанасці і цяжкасці. Але лічыце, што ў нас ідзе ў эканоміцы вайна, ваенные становішча. І мы павінны зрабіць усё для таго, каб вось у гэтых ваенных эканамічных умовах выканаць тыя задачы, якія перад сабой паставілі, і мы павінны іх вырашыць у гэтым годзе».

Вось такія перамены ва ўспрыманні рэальнасці! І яны былі дасягнутыя ў такія сціслыя тэрміны без тэарэтычнай рэфлексіі. Гэта не наш метад. Наш мае на мэце ўменне «ісці ад жыцця», што і было ў чарговы раз публічна прадэманстравана.

**Не спяшайцеся радавацца**

Жыццё дыктуе простыя рашэнні. Калі склады затаваранымя, то «першая задача — гэта прадаваць тое, што мы вырабляем».

Д'ябал, як вядома, мае схільнасць хавацца ў дэталях. Таму задача «прадаваць», пастаўленая ў агульным выглядзе, распадаецца на задачы ніжэйшага рангу: «куды прадаваць», «па якім коште прадаваць» і г. д. Але ўся гэтая сукупнасць падзадач павінна ў выніку дазволіць ураду адказаць на галоўнае пытанне АП: «Грошы, дзе грошы?»

«Усё праходзіць, і гэта пройдзе», — супакойваў нецярплівых і мітуслівых цар Саламон. 22 мая, выступаючы на VII з'ездзе Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, АП надаў біблейскай прыпавесці сучаснае гучанне: «Крызісы прыходзяць і сыходзяць», таму нам варта любой цаной захаваць працоўныя месцы.

Аднак 6 жніўня прэм'ер-міністру давялося выслухоўваць не чарговую прытчу, а жорсткі загад: «Чакаць, што будуць лепшыя часы ў нашых суседзяў, на нашых рынках, не даводзіцца, вы бачыце, як развіваюцца падзеі. Таму давядзецца ісці, праломвацца, канкураваць на іншыя рынкі. Гэта задача кожнага».

Пры гэтым АП падкрэсліў, што «праломвацца» варта выключна за кошт мер, якія прымаюцца ў пажарным парадку. А «падсунуць нейкія вялікія крокі ў будучыні, і прытым крокі не заўтрашняга дня» ні сабе, ні грамадству ён не дазволіць.

6 жніўня прагучала і такое нязвыклае для лексікону АП слова, як «рэформа». Але не спяшайцеся радавацца. Рэінкарнацыі палітыкі лібералізацыі не плануецца. Мне ўжо даводзілася адзначаць раней, што на выклікі гісторыі палітычныя эліты адказваюць альбо распрацоўкай інавацыйных ідэй, якія адкрываюць новыя творчыя магчымасці, альбо вяртаннем да старых каштоўнасцяў, што апраўдалі сябе ў мінулым, г. зн. «архаізацыяй».

Які шлях выхаду з крызісу абраў АП — ні для каго не з'яўляецца таямніцай, і 6 жніўня ён свой стратэгічны выбар пацвердзіў: «Я глыбока не ўнікаў у гэтыя праблемы, але бачыў, што многія дзяржавы гэта перажывалі, і бачу наступствы падобных рэформаў. У нас таксама ў некаторых сверб, у частцы нашага грамадства: вось не атрымліваецца, патрэбны нейкія перамены».

Абгрунтаваная асцярога. Прыгадаем «арабскую вясну». Аўтарытарныя рэжымы пакінулі пасля сябе выпаленае інстытуцыянальнае поле. Няма правіл, прымальных для большасці грамадзян. Няма грамадскіх і палітычных арганізацый, здольных адводзіць незадаволенасць. У такіх умовах людзям нічога больш не застаецца, як выходзіць на плошчу.




**Акрамя краіны — нічога**

Унітарная дзяржава — форма дзяржаўнага ладу, пры якой яе часткі з'яўляюцца адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі адзінкамі і, у адрозненне ад федэрацыі, не маюць статусу дзяржаўнага ўтварэння. Такое вызначэнне нам падказвае Вікіпедыя.

Не буду аспрэчваць. Але мы маем справу з прынцыпова іншым тыпам унітарнага. Вось як яго тлумачыць сам АП: «Улада, і прэзідэнт перш за ўсё, я ўжо часта вам пра гэта казаў, павінны кантраляваць самае галоўнае тры рэчы: уладу — яна не прыватызуецца, уласнасць і грошы. Гэта павінна быць перш за ўсё. Ну і потым, я ўжо казаў, ідэалогія ў нас не прыватызуецца і гэтак далей».

Учытайцеся: улада і прэзідэнт павінны кантраляваць... уладу. АП не памыліўся. Для яго паняцці «ўлада» і «прэзідэнт» з'яўляюцца сінонімамі. Нездарма ж ён разглядае сябе ў якасці адзінага палітыка ў краіне.

Улада не прыватызуецца. Г. зн. няма іншых носьбітаў улады акрамя самога АП. Уласнасць і грошы не прыватызуюцца. Гэта значыць, што няма іншых уладальнікаў уласнасці і грошай акрамя самога АП. З ідэалогіяй тая ж гісторыя. І гэтак далей. Такім чынам літаральна ўсё — рухомае і нерухомае, адушаўлёнае і неадушаўлёнае, матэрыяльнае і віртуальнае — не можа быць нікім прыватызавана ў Беларусі, таму што яно ўжо прыватызавана. Здагадайцеся з трох разоў, кім?

Вышэй я казаў пра існаванне прынцыпова іншага тыпу ўнітарнага (ад лацінскага «unitas» — «адзінства»). Але «прынцыпова іншае» не азначае «прынцыпова новае». У якасці каментатара паклічу на дапамогу расійскага гісторыка Юрыя Півапарава: «Ёсць такі тэрмін у навуцы, калі словы «ўлада» і «ўласнасць» аб'ядноўваюцца ў адно слова «ўладаўласнасць». Гэта азначае, што той, хто мае ўладу, той і валодае ўласнасцю. Што ўласнасць не гуляе сама па сабе. Прычым слова «ўласнасць»

*(працяг на стар. №4)*

## АДЗІНЫ ПАЛІТЫК

*(пачатак на стар. №3)*

не зусім дакладнае. Уласнасць — гэта асаблівы прававы інстытут. А тут, хутчэй, гаворка ідзе пра маёмасць».

Такім чынам, беларускі тып унітарнага ўяўляе сабой арганізацыйна-прававую форму камерцыйнай арганізацыі з адным удзельнікам (УП «Беларусь»). Маёмасць унітарнага прадпрыемства знаходзіцца ў прыватнай уласнасці, з'яўляецца непадзельнай і не можа быць размеркавана па ўкладах (долях, паях), у тым ліку паміж работнікамі прадпрыемства.

Але па такім прынцыпе ў Кіеўскай Русі былі арганізаваны княжацкія вотчыны, а тып адносін паміж князем і падданымі амерыканскі гісторык Рычард Пайпс называе патрыманіяльным (радавым).

3 тых часоў мала што змянілася. І як тут не пагадзіцца з АП: «У мяне акрамя краіны нічога няма».

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# НАВОШТА СТОЛЬКІ ЗБОЖЖА?

**«У Беларусі намалацілі 8 мільёнаў тон збожжа», — радасна паведамляюць у Міністэрстве сельскай гаспадаркі. Разбіраемся, куды яно пойдзе і ці хопіць нам гэтых мільёнаў.**

На хлеб, булачкі і батоны ідзе 1,1 мільёна тон. Разам са спіртам ды іншымі вырабамі будзе 1,5 мільёна тон. Столькі трэба нашым людзям на год, да наступнага ураджаю, па падліках міністэрства сельскай гаспадаркі.

«Мы зерне не экспартуем, гэта на унутраныя патрэбы. 1,5 мільёна тон — для патрэб людзей, астатняе на корм жывёле — каля 7,5 мільёнаў тон», — кажуць у міністэрстве.

Летась у Беларусі сабралі 9 мільёнаў тон. І з іх паўмільёна па сёння ляжыць у свіранах.

«Жывёлагадоўля не можа даць дакладную лічбу, зерне ж не даецца ў чыстым выглядзе. У нас яшчэ каля паўмільёна тон мінулагодняга зерня. Але яно не псуецца амаль, добра захоўваецца. Нават насенне захоўваецца два гады», — апісваюць у Міністэрстве сельскай гаспадаркі.

Зерне ляжыць у свіранах, але мы яго завозім нават з ЗША. За мінулы год мы экспартавалі 247 тон трыцікале і 4 тысячы кілаграмаў іншых зерневых. Агулам мы заплацілі за гэта 160 тысяч долараў, па падліках Белстата.

На хлебазаводах, куды звярнулася Еўрарадыё, у адзін голас адказваюць: «Карыстаемся мукой з беларускага зерня». Нават прыватная кампанія Boulangerie карыстаецца беларускай мукой, так танней.

«Гэта дзеля таго, каб не вельмі дарагі быў наш прадукт, каб людзі маглі яго набываць, бо везці муку з-за мяжы дорага», — адказваюць у Boulangerie.

Пры гэтым летась Беларусь экспартавала 28 тысяч тон мукі на 9 мільёнаў долараў.

У Аўстрыі збожжа збіраюць на траціну менш, чым у Беларусі, і прадаюць яго за мяжу, падлічвае эканаміст Міхаіл Залескі:

«Аўстрыі хапае, і яны яшчэ экспартуюць. Нам трэба глядзець, колькі мы трацім збожжа на кілаграм свініны ці ялавічыны. Мы не падлічваем гэтага. А тут менавіта і трэба шукаць праблему. Бо тут неэфектыўнасць гаспадаркі, збожжа не ашчаджаецца, бо на вёсцы няма гаспадара, там асвойваюць рэсурс».

А мы збожжа не экспартуем, бо — «стратэгічны прадукт».

**Арцём Мартыновіч**
**Еўрарадыё**

## СВАБОДУ ПАЛІТВЯЗНЯМ!

# ГУМАНИЗМ ЧЕРЕЗ НЕ ХОЧУ

**Вечером 22 августа на автовокзале «Восточном» в Минске несколько сот человек с цветами и крамольным бело-красно-белым флагом встретили освобожденного Николая Статкевича. Накануне президентских выборов, назначенных на 11 октября, Александр Лукашенко пошел на уступки Западу: помиловал политического заключенного № 1 и других фигурантов этого списка — анархистов Николая Дедка, Игоря Олиневича, Евгения Васьковича, Артема Прокопенко, диссидента Юрия Рубцова.**

Официальная формулировка — «исходя из принципа гуманизма». Но белые нитки этой формулировки видны любому обывателю.

Статкевич был одним из соперников и, пожалуй, самым яростным критиком Лукашенко на предыдущих выборах, а его шестилетний срок стал мрачным символом расправы за Площадь — массовое выступление белорусов в Минске 19 декабря 2010 года. Обозреватели называли Статкевича личным врагом Лукашенко.

Во всяком случае, упоминая о нем, официальный лидер неизменно раздражался, повторял: хочет быть героем — пусть сидит. Нынешний же гуманизм через не хочу прозрачно связан с интересом белорусского руководства улучшить отношения с Евросоюзом, США по итогам выборов-2015.

Фактически Лукашенко проговорил этот прагматичный расчет 4 августа во время интервью «Еврорадио», «Радио Свобода» и TUT.by: «Я не стану лукавить, этот вопрос в повестке дня. Решить это могу только я… Если его выпускать, то выпускать до выборов. Если не выпускать, то не выпускать».

Ключевое здесь — выборы, о гуманизме — ни слова.

**Лукашенко выдержал паузу**

Понятно, что предстоящие выборы не станут праздником демократии. Налицо регресс даже в сравнении с кампанией-2010.

Тогда в избирательном бюллетене была обойма оппозиционных персоналий, ныне из пятерых потенциальных кандидатов лишь Татьяна Короткевич может быть отнесена к мягкой оппозиции. И то не бесспорно. В самом оппозиционном лагере активистку гражданской кампании «Говори правду» обвиняют в сговоре с режимом. На Площадь же ныне и вовсе никто не зовет.

Но эти априори бледные, как никогда имитационные выборы могут парадоксальным образом получить от Запада более снисходительную оценку. Западники нахлебались украинского вопроса, заценили ту позицию, которую занял в нем Минск, слегка дистанцировавшись от Москвы.

Короче, сегодня белорусским властям достаточно не особо бить внутренних оппонентов по головам, не сажать кандидатов после выборов в тюрьму — и прощение былых грехов с выходом на нормализацию отношений с ЕС и Вашингтоном становится реальной перспективой.

Ну и понятно, следовало снять вопрос политзаключенных, из-за которых, собственно, Запад и ввел санкции против верхушки режима.

«Белорусское руководство рассчитывает за счет этого шага добиться своей легитимации по итогам выборов, отмены западных санкций», — отметил в комментарии для Naviny.by минский обозреватель-международник Андрей Федоров.

И оппозиция, и демократические страны требовали выпустить политзаключенных давно. Но человек, в чьих руках была их судьба, тянул, просчитывал. Некоторые думали, что освободит перед майским саммитом «Восточного партнерства» ЕС в Риге, однако Лукашенко туда решил не лететь (прежде всего, пожалуй, чтобы не дразнить Москву).

Но дальше тянуть эту театральную паузу было нельзя. После голосования 11 октября живой политический товар потерял бы цену.

**Нужны деньги и маневр**

Освобождение политзаключенных, при том что критически мыслящий электорат не обманывается насчет причин гуманизма и не лелеет надежд на либерализацию, улучшает и внутренние позиции Лукашенко перед выборами.

Этим ходом действующий президент ослабляет козыри своих противников, особенно ратовавших за бойкот (наличие политузников было убийственным аргументом в обойме). Впрочем, иные из бойкотистов могут сказать: вот как мы напугали режим!

На самом деле решающими оказались экономические и внешнеполитические соображения. Россия в кризисе, обложена санкциями за Украину и, вероятно, не сможет далее субсидировать белорусского союзника в прежних объемах. На фоне же улучшения политических отношений с Западом у Минска повышаются шансы привлечь инвесторов, получить кредит МВФ.

Тот, правда, требует реформ, но политический фон тоже может повлиять на решение, да и опыт имитации экономических преобразований у белорусского правительства есть.

Среди обозревателей также популярен тезис, что Лукашенко за счет разморозки отношений с ЕС и США хочет расширить пространство геополитического маневра, застраховаться от экспансионистских поползновений Москвы.

Впрочем, как отмечает Федоров, «Украина имела куда более тесные отношения с ЕС и США, но это не уберегло ее от российской агрессии». Собеседник Naviny.by не исключает, что даже весьма условный прозападный тренд Минска может вызвать резкую реакцию Кремля.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**http://naviny.by**

## ФІНАНСАВЫ КРЫЗІС

# «ФАКТ ОБВАЛЬНОЙ ДЕВАЛЬВАЦИИ НАЛИЦО»

**Оценку стремительному падению белорусского рубля , когда 24 августа в результате торгов доллар прибавил 871 рубль, достигнув отметки 17 601, евро вырос на 1098 до 19 935 белорусских рублей, а российский рубль — на 1,59 до 247,3 рубля, в экспресс-комментарии «Салідарнасці» дал доктор экономических наук, профессор Борис Желиба.**

– Факт обвальной девальвации налицо. Примерно такая же произошла в декабре прошлого года, когда российский рубль стал падать, а мы держались-держались, но потом обвалились на 30% вслед за ним, – считает экономист.

– Основные причины сегодняшнего обвала – внешние. Мы видим понижение цен на нефть, и процесс пока идет. Отсюда обвал российского рубля, поскольку экспорт России наполовину, наверное, зависит от углеводородов. А поскольку наши экономики взаимосвязаны, то вслед за ним можно констатировать и обвал белорусского рубля.

Однако можно найти причины девальвации и внутри нашей экономики. К примеру, Нацбанк вроде не создает много рублей, но все-таки в последние дни сделал несколько выпусков своих облигаций, которые предназначены под свободные рубли коммерческих банков. Значит, была излишняя рублевая ликвидность. Значит, в своих действиях Нацбанку нужно еще ужаться. Еще пример – Нацбанк чересчур активно рекомендовал банкам снижать депозитные рублевые проценты, чтобы удешевить кредиты для реального сектора. Можно сказать, что это происходило почти в административно-командном порядке.

В результате вкладчики стали переводить рублевые депозиты в валютные, создавать дополнительное давление на курс рубля.

Борис Желиба полагает, что у Нацбанка есть инструменты, чтобы смягчить удар от обвала белорусского рубля, но сделать это из-за внешних факторов будет очень непросто. Многое зависит, как дальше будут изменяться цены на нефть.

– Цены на нефть когда-нибудь должны достичь дна и оттолкнуться от него. Тогда негативные процессы замедлятся, российские рубль, возможно, начнет потихоньку отыгрываться, а мы – вслед за ним.

По мнению экономиста, держать деньги на рублевых депозитах все меньше смысла.

– После обвальной девальвации наступает период интенсивной инфляции. Поэтому я бы переводил сбережения в валюту.

**Руслан Горбачев**
**http://gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 28.08.2015 у 17.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.